Мельнікаў, І. В. Сучасная польская гістарыяграфія аб праблемах сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі перыяду капіталізму (1861 — 1914 гг.) / І. В. Мельнікаў // Працы гістарычнага факультэта БДУ: Навук. зб. Вып. 4 / Рэдкал.: У. К. Коршук (адк. рэд.) [і інш.] — Мн: БГУ, 2009. — С. 172–176.

***І. В. МЕЛЬНІКАЎ***

# СУЧАСНАЯ ПОЛЬСКАЯ ГІСТАРЫЯГРАФІЯ АБ ПРАБЛЕМАХ САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНАГА РАЗВІЦЦЯ БЕЛАРУСІ ПЕРЫЯДУ КАПІТАЛІЗМУ (1861—1914 гг.)

Гісторыя сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі перыяду капіталізму (1861—1914 гг.) даволі актыўна вывучалася прадстаўнікамі польскай гістарычнай школы. Пачатак так званага «сучаснага» этапу развіцця польскай гістарычнай навукі ўмоўна адносяць да 1989 г., калі пад уплывам сацыяльна-палітычных рухаў адбылося падзенне камуністычнай сістэмы і ўтварэнне Трэцяй рэспублікі (Рэчы Паспалітай).

У апошняе дзесяцігоддзе польскімі гісторыкамі была створана вялікая колькасць прац, прысвечаных розным аспектам сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі перыяду капіталізму. Некаторым з праблем (*як напрыклад, дэмаграфічным працэсам, развіццю шляхецкага землеўладання*) было нададзена больш увагі, другім (*развіццё капіталістычных рэформ у прамысловай сферы*) менш.

Такім чынам, можна выдзеліць некалькі груп пытанняў, якія карысталіся найбольшай увагай польскіх гісторыкаў у адзначаны час.

Па-першае — гэта праблемы, звязаныя з вынікамі паўстання 1863—1864 гг. у Беларусі. Па-другое — гэта праблемы дэмаграфічнага развіцця тэрыторый Паўночна-Заходняга краю, пытанні фарміравання і развіцця беларускай інтэлігенцыі і буржуазіі. Па-трэцяе — гэта пытанні так званай прамысловай рэвалюцыі 1860—1870 гг.

Аднымі з найбольш падрабязных прац, прысвечаных паўстанню 1863—1864 гг. і яго вынікам, з'яўляюцца працы Станіслава Ланца (Laniec). І калі ў некаторых з манаграфій (Partyzanci zelaznych drog roku 1863, Kolejarze i drogi rzelazne w powstaniu styczniowym, Partyzanci Kresow Polnocno-Wschodnich w powstaniu styczniowym (ziemie bialoruskie) і інш.) аўтар больш увагі надае падзеям паўстання, то ў маштабнай манаграфіі «*Bialorus w drugiej polowie XIX stuliecia*» галоўнымі праблемамі з'яўляюцца менавіта сацыяльна-эканамічныя вынікі паўстання. Так, у раздзеле 4 С. Ланец звяртае ўвагу на год 1864 і рэпрэсіі царскіх улад. Тут аўтар падрабязна апісвае страты эканамічнага характару, якія неслі беларуская і польская шляхта ў выніку «пацыфіка-



цыі» гарадоў і шляхецкіх маёнткаў. С. Ланец адзначае, што найбольшыя страты ў час «пацыфікацыі» 1864—1866 гг. панясла шляхта Віленшчыны, Гродзеншчыны, Міншчыны і Магілёўшчыны [1, с. 23—24].

Аўтар адзначае, што канфіскацыя маёнткаў беларускай шляхты пачалася яшчэ да прыняцця царскага ўказа. Самая вялікая колькасць канфіскаваных шляхецкіх маёнткаў была ў Гродзенскай губерні. Тлумачылася гэта тым, што падчас паўстання менавіта на тэрыторыі гэтай губерні адбыліся самыя жорсткія бітвы. С. Ланец апісвае працэс высялення і ссылкі асоб каталіцкага веравызнання і польскай нацыянальнасці ўглыб Расійскай імперыі. Па матэрыялах справаздач МУС за 1863—1867 гг. з Паўночна-Заходняга краю было выслана 33 958 чалавек [2, с. 43]. З гэтай лічбы 13 500 чалавек засталося ў цэнтральнай Расіі, а 20 000 вывезена ў Сібір.

Разглядая вынікі паўстання, аўтар робіць плаўны пераход да іншых пытанняў сацыяльна-палітычнага і эканамічнага развіцця Беларусі ў другой палове XIX ст. Так, С. Ланец падрабязна разглядае ход і вынікі правядзення аграрнай рэформы 1861—1863 гг. у Беларусі, працэс мадэрнізацыі прамысловасці, развіццё транспарту і гандлю.

Сацыяльна-эканамічныя вынікі паўстання 1863—1864 гг. разглядае З. Вінніцкі (Winnicki) у сваёй «*W Minsku Litewskim miejscu dawniej Rzeczypaspolitej*». Аўтар аналізуе працэс «дэпаланізацыі» гарадоў Паўночна-Заходняга краю. Адной з галоўных высноў З. Вінніцкага з'яўляецца тое, што працэс выцяснення «польскага» этнічнага элемента з эканамічнай сферы жыцця беларускіх гарадоў адмоўна адбіўся на іх развіцці і спрыяў «замаруджванню» капіталістычных пераўтварэнняў у эканамічным жыцці Беларусі [5, с. 85].

Пытанням дэмаграфічнага характару, працэсу фарміравання беларускага этнасу прысвяціў шэраг прац П. Эберхардт (*Eberhardt*).

Так, у сваёй кнізе «*Medzy Rosja a Niemcami*» аўтар робіць аналіз нацыянальнай структуры насельніцтва Беларусі ў канцы XIX — пачатку XX ст. Аўтар адзначае, што вялікі ўплыў на фарміраванне беларускай нацыі аказала тое, што тэрыторыя сучаснай Беларусі была ў свой час у складзе Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. Аднак далейшыя працэсы: войны, паланізацыя, падзелы Рэчы Паспалітай, русіфікацыя,

паспрыялі на тое, што беларускі народ не быў адзіным у рэлігійным, моўным і нацыянальным планах [6, с. 34—37].

П. Эберхардт адзначае, што ў другой палове XIX ст. большасць шляхты і інтэлігенцыі складалася з палякаў. Асноўнымі жыхарамі гарадоў былі яўрэі. Асноўную колькасць бюракратыі прадстаўлялі расіяне. І самая значная частка «сапраўднага» беларускага элемента жыла ў вёсках. Ме-



навіта сяляне гаварылі на беларускй мове. Аднак і тут было не ўсё адназначна. Існавала так званая «палярызацыя», г. зн. некаторыя адносілі сябе да палякаў, другія да рускіх, а трэція «заставаліся» беларусамі. Падобныя працэсы назіраліся і сярод беларускай шляхты [7, с. 67].

Галоўную ролю ў фарміраванні беларускай нацыі, па меркаванню П. Эберхардта, адыгрывала «невялікая» колькасць (напачатку) нацыянальнай інтэлігенцыі, якая выхоўвалася ў шляхецкіх сем’ях, атрымлівала адукацыю высокага ўзроўню.

У другой сваёй кнізе «*Przemiany narodowosciowe na Bialorusi*» П. Эберхардт таксама звярнуў увагу на працэс фарміравання беларускай народнасці. Так, аўтар адзначае, што расійскі перапіс насельніцтва, праведзены ў 1897 г., вызначыў, па-першае, працэнт карыстання беларускай мовай і, па-другое, рэлігійны аспект. Па выніках перапісу колькасць беларускамоўнага насельніцтва складала 4756,8 тыс. (73,3 %) насельніцтва Паўночна-Заходняга краю. Галоўнай высновай аўтара з’яўляецца тое, што фарміраванне беларускай нацыянальнай «самастойнасці» адносіцца да перыяду другой паловы XIX — пачатку XX ст., калі па меркаванню П. Эберхардта капіталістычныя пераўтварэнні ў эканоміцы Расійскай імперыі набіраюць значныя абароты [8, с. 21].

Пытанням працэсу прамысловай рэвалюцыі прысвяціў значную ўвагу П. Вандыч (Wandycz). Так, у сваёй кнізе «*Pod zaborem 1795—1918*» у главе 5 «*Zabor rosyjski i rewolucja przemyslowa*» робіць поўны аналіз развіцця прамысловасці на тэрыторыі Каралеўства Польскага і Паўночна-Заходняга краю. Аўтар адзначае, што адмена прыгону і аграрныя пераўтварэнні з’явіліся значным штуршком для эканамічнага развіцця беларускіх зямель (паміж 1864 і 1890 гг. маёмасць сялян узрасла на 8 %) [10, с. 34—40].

Значным фактарам эканамічнага развіцця Паўночна-Заходняга краю была наяўнасць разгалінаванай сеткі чыгуначных дарог, якія звязвалі цэнтральную Расію з Захадам. Аўтар адзначае развіццё дрэваапрацоўчай прамысловасці ( яе цэнтрамі былі Бабруйск, Добруш, Пінск і інш.). Развіваліся таксама тэкстыльная, фарфоравая і іншыя галіны прамысловасці [10, с. 48—50].

Польскі гісторык А. Езерскі (Jezierski) у кнізе «*Historia gospodarcza Polski*» адзначае, што працэс прамысловага развіцця Беларусі меў павольны характар, аднак ён паспрыяў на фарміраванне беларускай нацыі [11, с. 46].

Гісторык У. Ярмалковіч у кнізе «*Karotki narys historii Bialorusi da 1914*» адзначае, што значным штуршком для прамысловага развіцця Беларусі



была разгалінаваная сетка чыгуначных дарог, якая знаходзілася ў Беларусі [12, с. 32].

Польскі гісторык Р. Юркоўскі (Jurkowski) у артыкуле «Przyczynek do dziejow towarzystw rolniczych i organizacji gospodarczo-spolecznych ziemianstwa polskiego na kresach polnocno-wschodnich 1876—1904» разважае пра дзейнасць сельскагаспадарчых таварыстваў у адзначаны перыяд. Галоўнай высновай аўтара было тое, што, нягледзячы на масавую «рэкламную» кампанію і пачатковы поспех гэтых таварыстваў, галоўную задачу, інтэграцыю польскага шляхецтва ў расійскае грамацтва, яны так і не рашылі. Таварыствы не сабралі «пад свае крылы» ўсіх землеўладальнікаў, але значным было тое, што польскія і беларускія землеўладальнікі атрымалі магчымасць упершыню пасля падаўлення паўстання і мураўёўскіх рэпрэсій узаемадзейнічаць з афіцыйнай расійскай уладай [13, с. 695—720].

Такім чынам, праблемы і аспекты сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі перыяду капіталізму (1861—1914) падрабязна даследуюцца сучаснай польскай гістарычнай школай.

**ЛІТАРАТУРА**


1. *Laniec, S.* Bialorus w drugiej polowie XIX stuliecia / S. Laniec. Olsztyn, 1997.
2. *Laniec, S.* Partyzanci kresow polnocno-wschodnich w powstaniu styczniowym (ziemie bialoruskie) / S. Laniec. Torun, 1996.
3. *Laniec, S.* Koliejarze Krolestwa polskiego I Bialostoczczyzny w latach 1865—1914 / S. Laniec. Olsztyn, 1995.
4. *Laniec, S.* Poczatki noworzytnego ruchu narodowego Bialorusinow, w: W kregu kultury bialoruskiej. Praca zbiorowa pod red / S. Laniec. W. Pilata, Olsztyn, 1994.
5. *Winnicki, Z.-J.* W Minsku-Litewskim, miescie dawniej Rzeczypospolitej / Z.-J. Winnicki. Wroclaw, 1999.
6. *Eberhardt, P.* Medzy Rosja a Niemcami / P. Eberhardt. Warszawa, 1999.
7. *Eberhardt, P.* Polska ludnosc kresowa / P. Eberhardt. Warszawa, 1998.
8. *Eberhardt, P.* Przemiany narodowosciowe na Bialorusi / P. Eberhardt. Warszawa, 1994.
9. *Eberhardt, P.* Problematyka narodowosciowa Bialorusi w XX w. / P. Eberhardt // Bialorus, Czechoslowacja, Litwa, Polska, Ukraina. Mniejszosci w swietlie spsow statystycznych XIX—XX w. Lublin, 1996.
10. *Wandycz, P.* Pod zaborami 1795—1918. Ziemie Rzeczypospolitej w latach 1795—1918 / Wandycz P. Warszawa, 1994.

11. *Jiezierski A.* Historia gospodarcza Polski / A. Jiezierski. Warszawa, 1997.
12. *Jarmalkowicz, W.* Karotki narys historii Bialorusi da r. 1914 / W. Jarmalkowicz. Bialystok, 1997.



13. *Jurkowski, R.* Praca organiczna, czy tylko trwanie? Przyczynek do dziejow towarzystw rolniczych i organizacji gospodarczo-spolecznych polskiego ziemianstwa na kresach polnocno-wschodnich w latach 1876—1904 / R. Jurkowski // Przeglad Wschodni, t. VI, 2000.